# Голас Радзімы

28 ліпеня 1988 г.
№ 30 (2068)

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Здымак на памяць... Яго зрабіў у піянерскім лагеры «Зялёны Бор» карэспандэнт «Голасу Радзімы» С. КРЫЦКІ. Дзецям з Бельгіі, Галандыі, Швецыі і Польскай Народнай Рэспублікі гэта фатаграфія яшчэ доўга будзе нагадваць пра цікавы і вясёлы адпачынак, пра беларускіх школьнікаў, разам з якімі бавілі час і сябравалі. (Працяг фотарэпартажу пра адпачынак замежных дзяцей у Беларусі змешчаны на 4-й стар.).**

УРАЧЫСТАСЦІ

## У ГОНАР СВЯТА

У Мінску адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны нацыянальнаму святу ПНР — 44-й гадавіне адраджэння Польшчы.

З дакладам выступілі міністр народнай асветы БССР М. Дзямчук, генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзінські.

Удзельнікі сходу накіравалі прывітальнае пісьмо ў адрас галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы. У заключэнне адбыўся святочны канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.

З выпадку нацыянальнага свята польскага народа ў генеральным консульстве ПНР у Мінску быў наладжаны прыём.

МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС

## ПРЫСУДЖАНА ПЕРШАЕ МЕСЦА

Лепшым аратым на міжнародным конкурсе навучэнцаў сельскіх прафтэхвучылішчаў сацыялістычных краін прызнаны малады механізатар з Беларусі Генадзь Голуб. Узаранае ім поле атрымала самую высокую ацэнку, а яму прысуджана першае месца сярод удзельнікаў, якія працавалі на гусенічных трактарах.

У сям'і Антона Голуба, трактарыста калгаса «40 год Кастрычніка» Лунінецкага раёна, — пяцёра сыноў. Усіх бацька прывучыў да тэхнікі. Адзін разам з бацькам працуе трактарыстам, двое — шафёрамі, чацвёрты сын вучыцца ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі. Генадзь — самы малодшы. Штогод у час канікулаў быў напарнікам бацькі. Бацькоўская школа дапамагла перамагчы і на міжнародным конкурсе.

Пераможцам сярод аратых на колавых трактарах стаў навучэнец з Чэхаславакіі Марцін Тымоўчак. Першыя месцы сярод аратых-дзяўчат на гусенічных і колавых трактарах заваявалі Алена Дынзу з Малдавіі і Аксана Кабан (Украіна).

Першае агульнакаманднае месца заваявала зборная аратых СССР, другое—Венгры. У ліку лепшых каманды ГДР і ДРВ. У спаборніцтвах прынялі ўдзел юныя механізатары з васьмі сацыялістычных краін.

АЎКЦЫЁН І ЛАТАРЭЯ

## КОНЕЙ РАНА «СПІСВАЦЬ»

У Гродзенскай вобласці становіцца традыцыяй правядзенне аўкцыёнаў племянных коней. На гэты раз, як і летась, ён праходзіў на эксперыментальнай базе «Ніва» Лідскага раёна. Для продажу на аўкцыён было прадстаўлена звыш ста жарабцоў і кабыл розных парод з лепшых гаспадарак Гродзенскай і іншых абласцей рэспублікі.

Сёлетні аўкцыён расшырыў кола сваіх удзельнікаў і выйшаў за рамкі рэспублікі — на публічныя таргі прадставілі племянных коней жывёлаводы Літвы. Вялікую актыўнасць праявілі госці з Брэсцкай і Віцебскай абласцей. Канюшні сваіх гаспадарак яны папоўнілі вялікай колькасцю пародзістых жывёл, сярэдняя цана якіх вагалася ад трох да сямі тысяч рублёў. Агульная сума выручкі аўкцыёна перавысіла 260 тысяч рублёў.

Пасля заканчэння таргоў племянымі конькмі быў арганізаваны продаж рабочых коней і жарабят для насельніцтва.

І яшчэ адна навіна. Апладысментамі сустрэў стадыён у Валожыне, дзе праходзіла гарадское свята, аб'яву аб нумары латарэйнага білета, на які выпаў рэдкі выйгрыш — конь. Яго ўладальнікам стала афіцыянтка рэстарана Алена Семяняга. Шчаслівая дзяўчына правяла па кругу ганару буланага. Тут жа знайшлося на каня нямала пакупнікоў, але яна падарыла яго бацьку, які жыве ў вёсцы Забор'е.

Такім чынам, здаецца, ужо «спісаны» намі з-за непатрэбнасці конік зноў набывае сяброў і новых гаспадароў.

НАВУКОВАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## У КОСМАС — БЕЗ РАКЕТЫ

Стварэнне агульнапланетнага транспартнага сродку пачала ў Гомелі група энтузіястаў, якая аб'ядналася на гаспадарчаразліковых пачатках. Новы цэнтр утвораны пры падтрымцы Федэрацыі касманаўтыкі СССР як альтэрнатыва «зорным войнам» і, адпаведна, атрымаў назву «Зорны мір». Яго арганізатары маюць намер таксама распрацаваць канцэпцыю безракетнай індустрыялізацыі космасу. Аб сур'ёзнасці іх задум гаворыць хаця б той факт, што праўленне Фонду міру ўжо пералічыла на банкаўскі рахунак цэнтра 150 тысяч рублёў. Добраахвотныя ўзносы ад арганізацый і асобных грамадзян, хто жадае ўнесці свой уклад у ажыццяўленне праекта, прымаюцца Гомельскім жылсацбанкам.

Апрача вырашэння асноўнай задачы, цэнтр заключае дагаворы з прадпрыемствамі і арганізацыямі на выкананне розных заказаў і падбірае спецыялістаў, якія могуць іх выканаць. У перспектыўных планах цэнтра стварэнне навуковых кааператываў, лабараторый, канструктарскіх бюро, правядзенне семінараў і канферэнцый. «Зорны мір» стане пасрэднікам паміж людзьмі, якія жадаюць больш поўна раскрыць свае навуковыя і творчыя здольнасці, і арганізацыямі, якія маюць патрэбу ў навукова-даследчых, эксперыментальных, канструктарскіх і іншых работах.

ПРАПАНУЕ «ЭЛЕКТРОНІКА»





**Мікракамп'ютэр «Электроніка МК-90», серыйны выпуск якога пачаты ў вытворчым аб'яднанні «Інтэграл», стане надзейным памочнікам спецыяліст самых розных галін народнай гаспадаркі. Ён знойдзе прымяненне пры падрыхтоўцы навуковых, інжынерных, статыстычных разлікаў, апрацоўцы тэкстаў, сімвалаў, графікаў. Вага навінкі — усяго семсот грамаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: інжынер-электронік Юрый БУХАРАЎ за рэгуліроўкай мікракамп'ютэра; мікракамп'ютэр «Электроніка МК-90».**

ГОСЦІ З ЗША

## У «ДЖАЗЕ...» ТОЛЬКІ ДЗЯЎЧАТЫ

Канцэрт танцавальнага калектыву «Джаз анлімітэд дэнс компані» на сцэне міжнароднага маладзёжнага цэнтра «Юнацтва» пад Мінскам вянчаў знаходжанне ў Беларусі амерыканскага ансамбля са штата Луізіяна.

Паўнамоцтвамі «паслоў добрай волі да ўсіх народаў Савецкага Саюза» калектыў быў надзелены спецыяльнай вярыцельнай граматай губернатара штата напярэдадні ад'езду ў СССР. Самадзейны ансамбль, які складаюць школьніцы старэйшых класаў, выконваў джазавыя танцавальныя нумары на розных мінскіх сцэнах. Яго ўдзельніцы сустракаліся з равеснікамі ў піянерскім лагеры «Зарніца».

Для ўдзельніц ансамбля, які ў гэтым годзе прызнаны лепшым аматарскім танцавальным калектывам у штаце Луізіяна, танец — не толькі хобі, але і спосаб наладжвання кантактаў і ўмацавання даверу паміж народамі ЗША і СССР.

ЭКАЛОГІЯ

## ЯК «ЛЯЧЫЦЬ» РЭЧКУ

У лячэнні хворай ракі, як і любога хворага, важнымі з'яўляюцца чысціня, строгае захоўванне правіл санітарыі. У Мінску спынена скідванне неачышчаных сцёкавых вод у галоўную «артэрыю» горада — Свіслач.

У яго ваколіцах на праектную магутнасць выведзена трэцяя чарга станцыі аэрацыі, дзе забруджаныя воды з прамысловых прадпрыемстваў і жылых масіваў адстойваюцца, падвяргаюцца абясшкоджванню і толькі пасля гэтага накіроўваюцца ў раку. Узведзеныя тут збудаванні разлічаны на апрацоўку 190 тысяч кубаметраў сцёкавых вод за суткі, а ўсяго станцыя цяпер можа «прапусціць» іх 800 тысяч кубаметраў. Гэта поўнасцю адпавядае патрэбнасцям горада.

ГАНДЛЮЕ САЎГАС

## ПАДАРЫЦЕ РУЖЫ

Такую параду даюць усім пакупнікам работнікі кветкавага кіёска саўгаса «Бярэсце», які адкрыўся на цэнтральным рынку Брэста.

Штодзень з сямі гадзін раніцы і да дзесяці вечара непасрэдна з градкі дастаўляюцца сюды ружы самых розных адценняў. Яны ўмомант знікаюць з прылаўкаў. Бо пры выдатнай якасці і прыгажосці цана на саўгасную прадукцыю амаль у два разы ніжэйшая, чым у прыватніка. Нягледзячы на гэта, гаспадарка мае добры прыбытак. Дзесяць сотак закрытага грунту, дзе расце каля шасцідзесяці тысяч руж розных сартоў, штомесячна даюць даход 15 тысяч рублёў.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ЧЫМ НАМ ПАГРАЖАЕ СНІД?

**Вось ужо на працягу некалькіх год людзі ва ўсіх краінах свету з жахам вымаўляюць слова — СНІД. Гэтая пакуль што практычна невылечная хвароба — сіндром набытага імунадэфіцыту — пагражае мільёнам чалавечых жыццяў на Зямлі. Таму спецыялісты-медыкі, добра разумеючы небяспеку, разгортваюць актыўную работу по барацьбе са СНІДам.**

**Ёсць выпадкі інфекцыі СНІДа і ў нашай краіне, нават у Беларусі. Як арганізавана барацьба з каварнай хваробай, прафілактыка яе, расказвае намеснік міністра аховы здароўя БССР, адзін з кіраўнікоў штаба па барацьбе і прафілактыцы СНІДа ў рэспубліцы Віктар БУР'ЯК.**

— ШТО ЎЯЎЛЯЕ САБОЙ ШТАБ ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ СНІДа?

— У наш штаб уваходзяць медыкі-адміністратары Міністэрства аховы здароўя БССР на чале з міністрам, галоўныя спецыялісты міністэрства, навукоўцы, якія займаюцца гэтай праблемай, прадстаўнікі праваахоўных органаў рэспублікі, таму што частка кантынгенту рызыкі кантралюецца менавіта імі: зняволеныя ў турмах, прастытуткі, наркаманы...

СНІД — марудная інфекцыя, мае пэўнае падабенства да іншых інфекцый такога тыпу. А наш беларускі інстытут эпідэміялогіі і мікрабіялогіі ўжо даўно займаецца даследаваннямі ў галіне марудных інфекцый.

— ЧАМУ ЎЗНІК ШТАБ? МАГЧЫМА, ВЫКЛІКАЛА ТРЫВОГУ СІТУАЦЫЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ?

— Штаб арганізаваны ў 1987 годзе, у сакавіку, хаця на той час абстаноўка ў Беларусі была яшчэ спакойная: не зарэгістравана ніводнага выпадку СНІДа. Але мы разумелі, што першыя крокі павінны зрабіць медыкі, а не хвароба. Калі яна нас апярэдзіць, то змагацца з ёю будзе намнога цяжэй.

— ЦІ ЁСЦЬ АХВОТНІКІ ПРАВЯРАЦЦА НА СНІД? МОЖА, БЫЛІ ВЫПАДКІ СТАНОЎЧЫХ ВЫНІКАЎ АНАЛІЗАЎ?

— Так, ёсць пэўная частка людзей, якія жадаюць праверыць сваю кроў на СНІД. Але, на шчасце, станоўчых вынікаў аналізу менавіта сярод гэтых, скажам так, добраахвотнікаў няма. Тых, хто прыходзіць у нашы дыягнастычныя лабараторыі (іх сёння ў рэспубліцы дзевятнаццаць), медыкі просяць запоўніць анкету са сваімі данымі. Звычайна, людзі разумеюць сур'ёзнасць пытання і не адмаўляюць нам. Але калі нехта жадае захаваць ананімнасць, ён мае права гэта зрабіць.

— КАГО ПРАВЯРАЮЦЬ У АБАВЯЗКОВЫМ ПАРАДКУ ЯК МАГЧЫМАГА НОСЬБІТА ВІРУСА СНІДа?

— Кантынгент рызыкі, я ўжо прыгадваў яго, — зняволеныя на працяглы час, наркаманы, жанчыны лёгкіх паводзін, гомасексуалісты... Мы робім аналіз крыві на СНІД тым замежным грамадзянам, якія надоўга прыязджаюць да нас у краіну, напрыклад, на вучобу, а таксама савецкім спецыялістам, якія доўга працавалі за мяжой. І гэта дае плён. З дзвюццаці трох выпадкаў носьбіцтва віруса СНІД, якія зарэгістраваны ў Беларусі, 20 чалавек — замежныя студэнты. Тры чалавекі — з кантынгенту рызыкі.

— ШТО З ГЭТЫМІ ЛЮДЗЬМІ АДБЫЛОСЯ ДАЛЕЙ?

— Замежныя грамадзяне былі дэпартаваны за межы рэспублікі, а потым і краіны. Савецкія — адпраўлены ў спецыяльную інфекцыйную клініку ў Маскве. Дарэчы, некалькі іншаземцаў таксама пажадалі застацца там на лячэнне.

— ШТО Ж НАМ ПАГРАЖАЕ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГОД?

— Я ўжо казаў, што для кантролю ў нас арганізавана 19 лабараторый. Да канца года мы павінны атрымаць яшчэ 30 камплектаў такога абсталявання. І гэтага будзе дастаткова. Галоўны цэнтр работы — інстытуты эпідэміялогіі і мікрабіялогіі і пералівання крыві. Там праходзяць падрыхтоўку медыкі з перыферыі, мінскія спецыялісты таксама выязджаюць для кансультацый у раёны і вобласці.

Сёння, і гэта вельмі важна, у Беларусі правяраецца на чысціню кожны флакон з донарскай крывёю. У першую чаргу, вырашылі мы, не павінна быць «без віны вінаватых» — хворых людзей, каму выпадкова маглі б уліць кроў з вірусам СНІДа. Далей, паўсямесна абавязкова правяраецца на вірус СНІДа кантынгент рызыкі.

Дык што нам пагражае ў далейшым? Хацелася б быць аптымістам, усё ж такі мы пакуль у значна лепшым становішчы, чым іншыя краіны. У некаторай ступені адбілася тут і тое, што гомасексуалізм караецца ў нас па закону, наркаманаў не столькі, як на Захадзе. Ды і наркотыкі яны глытаюць або кураць, шпрыцамі карыстаюцца значна менш.

Але хвароба СНІД — вораг вельмі каварны і небяспечны. Трэба працаваць, змагацца з ёю. У гэтым адзіны шлях да поспеху.

## ДЕТИ СООТЕЧЕСТВЕННИКОВ В ПИОНЕРСКОМ ЛАГЕРЕ «ЗЕЛЁНЫЙ БОР»





# ВСЕГДА ЛИ ЖИЗНЬ—СКАЗКА?

Под Минском, в пионерском лагере «Зеленый Бор», в этом году отдыхали дети соотечественников из Бельгии, Голландии и Швеции. Впервые нашими гостями были ребята из Польской Народной Республики. Их приезд — следствие более тесных культурных контактов, установившихся в последнее время между Белорусским обществом «Радзіма», редакцией газеты «Голас Радзімы» и Белорусским общественно-культурным товариществом в Польше, которое объединяет белорусов, проживающих в этой стране.

Как всегда, основное время зарубежные ребята проводили в пионерском лагере, среди своих белорусских сверстников. Скучать было некогда: они участвовали в концертах художественной самодеятельности и в спортивных играх, плавали в бассейне и дежурили в столовой. Нашим гостям повезло: в этом году в Белоруссии отличное лето, светит жаркое июльское солнце, и потому прогулки в лес, за ягодами были особенно приятными. Для знакомства с нашей страной, ее людьми, их образом жизни ребятам много дали поездки в Минск, где они совершили экскурсию по городу, побывали в музеях, на концерте ансамбля «Хорошки», на приеме в Белорусском обществе «Радзіма». Последнее мероприятие, можно сказать, традиционное. По приглашению этой организации ребята приезжают в нашу республику. И как гостеприимные хозяева, сотрудники Общества оказывают им теплый и «сладкий» прием. На столе кипит самовар, рядом с ним вазы с фруктами, конфетами, торты. Здесь гости делятся своими впечатлениями, высказывают просьбы и пожелания, узнают о большой работе, которую ведет Белорусское общество «Радзіма» по укреплению связей с зарубежными земляками.

Все дети в мире одинаковы. Им всем необходима мама, потому что они нуждаются в л[illegible]. Все они любят сказки, потому что [illegible] сказок всегда хороший конец, торжествует добро, обиженный и слабый находит свою правду. Может быть, поэтом[illegible] одним из самых веселых и запомни[illegible]ся стал в лагере вечер сказок. Это был праздник с переодеванием, театрализованными сценками.

Чем моложе ребята, тем большее между ними сходство. С годами исчезает их одинаковость. Каждый приобретает свой жизненный опыт, окружающая обстановка и воспитание определяют сущноствь взрослеющего человека, его запросы и взгляды. Почему-то особенно отчетливо помнятся ребята, приезжавшие к нам на отдых первые годы. На чужбине их матери оказались во время второй мировой войны. На экскурсии в музее истории Великой Отечественной войны, у памятников погибшим, где дети просили остановиться, они плакали, потому что боль матерей была их болью. «Мама рассказывала, как жила за колючей проволокой,.. как издевался над нею бауэр, у которого она работала,.. как голодала и дрожала над корочкой хлеба», — часто можно было услышать от ребят. Те дети еще чувствовали боль, пережитую матерями, сострадали всем, кто прошел через войну, понимали, какое это счастье — мир.



И вдруг в этом году мы услышали: «Когда к вам приедут на будущий год дети, не водите их в музей Отечественной войны. Это больно».

— Нам тоже было страшно и больно, когда нас повезли на экскурсию в Майданек, бывший лагерь смерти, — ответила голландским девочкам Иоанна Лукашук из Польши. — Нам показывали газовые камеры, где живьем сжигали людей. Но мы должны знать это, чтобы бороться против тех, кто хотел бы новой войны.

Видимо, есть над чем подумать родителям: стоит ли так уж оберегать детей от всего трудного и страшного? Ведь жизнь — это не всегда сказки с хорошим концом.





Иоргена Блезе и Иво Хаубена чаще всего видели на футбольном поле. Кто знает, может быть, пройдет совсем немного времени и в каком-нибудь международном матче снова встретятся советская и голландская команды, а в последней — за Голландию будет играть Иво. Интересно только, за кого будет тогда болеть его бабушка?

В этом году, во время европейского чемпионата, все было очень просто. Таисия Ивановна Куперус-Марченко, бабушка Иво, и ее подруги болели за русских парней, за своих земляков. И не просто каждая у своего телевизора, а собирались все вместе. В тот самый момент, когда они шли смотреть финальный матч в гости к русской приятельнице, и остановил их голландский корреспондент, попросил разрешения пойти вместе с ними, чтобы потом написать о них. В голландской газете появилась не только статья, но и фотография: русские женщины болеют за своих соотечественников.

У Таисии Ивановны никогда не порывалась связь с Родиной. Любовь к ней сумела передать детям и внукам. Почти каждое лето они ездили с бабушкой к родственникам на Украину. Сын Рейнгард ребенком отдыхал в Крыжовке, а став взрослым, приезжал к нам с молодежной группой. В этом году побывал Иво. Таисия Ивановна очень много сделала для укрепления дружбы между советским и голландским народами, для развития культуры города, в котором живет, и потому магистрат Нута принял решение одну из его улиц в будущем назвать именем Т. Куперус-Марченко.

* * *

Первыми уезжали из лагеря бельгийцы и голландцы. Как всегда, расставаться было трудно. В глазах и гостей, и хозяев стояли слезы. «А нельзя ли остаться еще на месяц?» — спрашивали зарубежные ребята у старших.

— Приезжайте на следующий год! — пригласили их сотрудники Белорусского общества «Радзіма». — А те, кто вышел из пионерского возраста, приезжайте в молодежных группах, по «Спутнику». Мы всегда рады вам.

Ребята увезли с собой белорусские книжки, сувениры, адреса новых друзей, воспоминания о стране, где родились их мамы и бабушки, стране, которая никогда не будет чужой и им.

**Диана ЧЕРКАСОВА.**

**НА СНИМКАХ: (вверху слева) дети соотечественников на экскурсии в Минске; остальные снимки сделаны в пионерском лагере — в столовой, на футбольном поле, во время отдыха; внук нашей соотечественницы Т. Куперус-Марченко Иво.**

**Фото С. КРИЦКОГО.**

# THE WORLD OF NATURE

Ivan SHAMYAKIN,
People's Writer of the BSSR
and Chief Editor, Byelorussian Soviet Encyclopaedia Publishing House

The five-volume *Encyclopaedia of Byelorussia's Nature* has been published in Byelorussian in a single edition of ten thousand copies.

In the course of its 20 years' long existence the Byelorussian Soviet Encyclopaedia Publishing House has brought out numerous other reference books containing diverse information on the Republic's natural life (12-volume *Byelorussian Soviet Encyclopaedia,* the concise encyclopaedia *Byelorussian SSR,* etc.). The publication of the Red Data Book of the Byelorussian SSR has become an important event in the Republic's cultural life. Problems of nature conservation were also dealt with in separate editions of the encyclopaedic series *Byelarus: Byelorussia's Plant Life, Byelorussia's Rivers, Lakes and Reservoirs, Protected Animals in Byelorussia, Protected Plants in Byelorussia* ... Yet it was the publication of the *Encyclopaedia of Byelorussia's Nature* that evoked the greatest response.

This is indeed a unique edition; its five volumes contain over 500 publishers' signatures and 15,084 entries.

Truly enormous work had been accomplished. Nearly 3,000 entries are devoted to the Republic's plant life, over 2,000 deal with its animal life, and almost 2,500, with its rivers, lakes, reservoirs and other land-locked waters. The questions of nature conservation and utilization are discussed in more than 2,350 entries, Byelorussia's landforms and natural features — in 1,170. Over 1,500 entries deal with its climate, astronomical, meteorological and other natural phenomena and with various fields of research and institutions studying nature and its aspects. 391 entries are concerned with personalities.

Each volume has a jacket with colour photos representing the plant and animal life of the Republic. Page four contains statements by well-known scientists, writers and public figures on the need to safeguard nature and adopt a careful attitude to its wealth.

The edition is richly illustrated. There are insets with 2,736 colour illustrations, and also about 4,000 black-and-white photos and 19 colour map insets. The *Encyclopaedia* has drawn interest far beyond the borders of the Republic. When its first two volumes came out in print in 1984 the publishing house was awarded a silver medal by the United Nations Environment Programme (UNER) for popularizing the ideas of nature conservation.

Institutions and organizations concerned with nature conservation have contributed to the making of this edition. Considerable help has come from the academic institutes of zoology, experimental botany, geochemistry, and geophysics, genetics and cytology, and peat, the Central Botanical Gardens, the Byelorussian University and Gomel Univesity, the Teachers' Training Institutes in Vitebsk, Brest, Minsk and Mogilev, as well as the BSSR State Committee for Nature Conservation.

It is indicative that the *Encyclopaedia* has spurred on research in some spheres of science. For the first time several specific maps have been published. Certain dormant branches of ecological sciences were stimulated into activity. Many rivers and small lakes had never been measured. Scientists were prompted to fill in the blanks. Terminological gaps were also filled in where necessary.

At the same time, a number of alarming facts were brought to light, among them the irretrievable loss of some natural monuments, the shortage of specialists concerned with park landscaping, the unsatisfactory results of land-improving measures in some regions. All these questions are discussed in the edition which emphasizes the importance of nature conservation.

Recently a ove-volume popular encyclopaedia *Byelorussia's Nature* based on the *Encyclopaedia of Byelorussia's Nature* has been published in Russian. It has over 5,000 entries. This year two volumes from the series *Through the Pages of the Red Data Book of the Byelorussian SSR* will also come out in print. The publishers' plans include the printing of the special encyclopaedias *The Forest* and *Flax,* and in the more distant future — an 8-10 volume edition about animal life.





*The eternal flame of memory and glory is burning near the main monument of Brest Hero-fortress. This sacred for the people of our country place, where soviet soldiers heroically struggled with fascist invaders is everyday visited by thousands of people from all parts of the USSR and foreign guests.*
*On photos: 1. Former defender of the fortress Nikolay BALAK lives in Kiev, but he often comes here.*
*2. Main monument of Brest fortress.*
*Photos by E. KOBIAK.*

# No reason for complacency

It might appear natural that we should be talking of the 1986 Chernobyl nuclear disaster with decreasing frequency. In fact, even journalists have lost much of their interest in a subject that was most in the news but a short time ago.

But isn't it too early to get it off our minds?

To long reassurance is natural, in a way. You cannot live with a sense of uncertainty and wonder whether you can already go bathing or angling or gathering mushrooms in a forest. All the more so since the actual gravity of the trouble has blown over. The local population has been evacuated, an appropriate radiation monitoring system established, a full clean-up carried out and multiple food control assured. It is worth noting that 170 townships have been built in Byelorussia alone for the resetters: some ten thousand flats in estate-type houses with all amenities. People received compensation for the forced relocation.

Yet, for all that, the radioactive cloud produced by the nuclear disaster two years ago has left its imprint on the map of the republic for a long time to come, if not for ever. It has a zone off limits, a thing that is still hard to accept, an area where the former residents can never return. There is still the evacuation zone which is called a "30-km zone" although it extends in places for up to fifty kilometres away from the reactor. At first, there was an optimistic view that people would be able to return to it before long, but then the comeback had to be put off for the time being. Finally, there are the so-called environmental monitoring zones marked out as contaminated by precipitations with long-lived radio-nuclides of Caesium-137. These are eleven districts in Gomel Region and six in Mogilev Region. People live and work there. But it is there that major scientific, social, psychological and moral problems are being dealt with at the present time.

So what is the situation in Byelorussia like now, two years after the Chernobyl Nuclear Plant disaster? Why do some of the local people still suffer from radiophobia? And why, on the other hand, are some local chiefs and business managers so early reassured as was noted recently by the Central Committee of the Communist Party of the Republic?

There is no black-and-white answer to these questions? Yet the judgements of the experts I have interviewed coincide on one major point: one must not get so much reassured, still less forget about what has happened, not only because of the global policy of the nuclear age, but also because of the responsibility for the lot of the particular humans who have suffered from the disaster and have yet to overcome its after effect. Here are two of these judgements.

Valentin STEZHKO, Chief of the Radiological Medicine Department of the Byelorussian Ministry of Health:

"The general conclusion that medical men can make after two years of close observation of people who found themselves exposed to radioactive contamination in Byelorussia is that that there have been no negative consequences for their state of health. It is the very scope of investigation, first and foremost, that warrants such a conclusion. In 1987, 98 per cent of this population underwent an extended examination by most up-to-date methods. There has been an extra thorough examination of pregnant women and children. Of the 2,500 expectant mothers under surveillance here, 1,500 have since quite safely given birth to perfectly healthy babies. A total medical check-up of the said population group, 171,000 people, is now over. Not a single person with any sign of radiation injuries has been admitted to the hospitals of the Republic ever since the early months following the disaster.

"The local health services have been restructured to cope with the accident relief problems. The Byelorussian Ministry of Health has set up a radiological medicine department. Some specialised infant and adult clinics for extended in-patient specialised examination have been opened. However, there has been no need to set up any more endocrinological and haematological wards.

"And still we cannot say there is no danger any more. In the initial post-disaster period some of the local population did not avoid a dose-burden on the thyroid gland from an "attack" of the short-lived radionuclides of iodine-135. So one of our current aims is to measure exactly the body-dose and arrange for thyroid disease prevention. We have no right to disregard the possible remote negative conse-
Никитенко. Гол. Р. 1ⁿ²J74-ià+α9 alo
quences of that radiation, if only proceeding from the threshold theory.

The second task is to study the peculiarities of the so-called small dose-burdens. The good state of health at the present time has put some medical staff off their guard. But science has produced no final verdict as yet about the remote consequences of small dose-burdens. Even more dangerous is their combination with the chemical factors of foodstuffs pollution. That is a problem all by itself. Some research findings suggest that the radiological and chemical factors complement each other, thereby compounding the harmful impact on the organism.

Yevgeni KONOPLYA, Director of the Radiobiology Institute of the Byelorussian Academy of Sciences:

"Speaking of the contribution of the Byelorussian Academy of Sciences of the accident relief work at the Chernobyl Nuclear Power Plant, one can single out two stages. The first was investigating the radiation situation on the territory of the Republic. The findings thus obtained served for decision-making about the evacuation of people, the construction of new populated centres and organization of economic activity in the distressed areas. For instance, new decontamination techniques involving the use of natural and artificial sorbents have been proposed and applied, dust control materials and devices have been developed, as well as ways of utilization of radioactive waste.

"The second stage is expanding this work. We had to find out the most probable parameters of a possible radiation effect on various ecosystems and living organisms. We have studied the state, distribution and migration of radionuclides and attendant elements in landscapes, various types of soils, water, air, and vegetation. This is important for forecasting the way radionuclides travel up the food chain and build up in organs and tissue. These studies have enabled a comprehensive evaluation of the radiological and environmental situation in the Republic and its forecast for years to come. It is a kind of package of physical, chemical and mathematical models of the "behaviour" of radionuclides and their influence on biological objects.

At the same time we cannot say that we have succeeded in resolving or in many cases come near to resolving the problems we face. The level of radiobiological research has proved to be insufficient. To raise it, we have had special laboratories opened in institutes of the Byelorussian Academy of Sciences and in other departments, created an Institute of Radiobiology and established a branch division of the National Institute of Agricultural Radiology. Much research is carried out in conjunction with Ukrainian scientific centres.

"I should mention the unique effort, in magnitude and complexity, to create a radiation monitoring and forecasting system. One current problem is to study the influence of small doses of ionizing radiation on the state of the endocrine, cardio-vascular, immune and other systems to identify the possible short-term and long-term consequences of radiation and work out the means of radiation resistance.

"The process of reform now under way in this country has, beyond question, made itself felt in our approach to research scientific problems. You can see it, at least, by the careful attention that administrative bodies are now giving to our recommendations. But there should be more than that. It is, probably, worth while making a thorough economic analysis of the expediency of economic activity in some districts of the Gomel and Mogilev Regions, considering the extra outlays for ensuring the safety of the local residents and organization of productive activity.

**Vyacheslav KHODOSOVSKY.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

Андрэй ГУЦАЎ

### ЕДНАСЦЬ

Я сяджу
Сярод цёмнай ночы.
За акном варушыцца слата.
Углядаецца цень мне у вочы,
І акно мне прыкрыць чым
няма.
Раптам бразне вядро
нечакана...
Вецер лісцем гучней
зашуміць...
Я маўчу.
Спаць мне класціся рана,
Яшчэ многае трэба зрабіць,
Яшчэ шмат перадумаць
мне трэба.
Балазе, што да рання ёсць
час...

Я працую...
А цьмянае неба
Заглядае у вочы штораз...

Віктар ШНІП

***

Хутка забываем дабрыню,
Ну, а зло
душою помнім вечна.
Ля чужога пасядзець агню
Кожны здатны, покуль
халадэча.

Пасядзець, пагрэцца,
чай папіць,
Абяцаць любоў і дапамогу.
Ад агню пайсці —
і ўсё забыць,
Помнячы гаротную дарогу.

Радасці так мала у жыцці,
Толькі ў гэтым сам ты вінаваты.
Дрэнна аднаму у свет ісці,
Не пайсці —
цямніцай стане хата.

Хутка забываем дабрыню,
Ну, а зло
душою помнім вечна.
Не відаць ні дыму,
ні агню,
Ці такая ў свеце халадэча!

Уладзімір КАРЫЗНА

### ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА

На ўзлеску шумлівым,
Там, якраз на ражку,
Маладая каліна
Чырванее ў сняжку.

Ёй няўтульна, сцюдзёна —
Замарыла зіма.
З ёю побач ні клёна,
Ні бярозкі няма.

Вецер з неба і з поля,
Пыл завейны і свіст
Б'юць каліну па голлі,
Гнуць, маўклівую, ўніз.

Часам цэлымі днямі
Снег ідзе як на грэх,
Ды каліна агнямі
Праступае скрозь снег.

І чым больш вецер рэзкі,
І мароз чым ямчэй,
Тым каліна на ўзлеску
Прыгажэй і ярчэй!

Не каліна — дзяўчына!
Маладая зара.
Сэрцу блізкаму міла,
Як сястрыца-сястра...

## ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ

# МАСТАК ПАЧЫНАЕЦЦА З АСОБЫ

На сваёй персанальнай выстаўцы ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў студэнт-першакурснік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Уладзімір Шаркоў, будучы жывапісец, прадставіў 37 работ. Сярод іх творы, напісаныя на працягу 80-х гадоў, а таксама і зусім нядаўнія, падрыхтаваныя спецыяльна да гэтай падзеі.

Па праўдзе сказаць, не надта зацікавіліся выстаўкай мінчане. Не было тут работ, якія маглі зрабіць сенсацыю, уся экспазіцыя даволі традыцыйная, знешне малаэфектная. Не стаялі доўгія чэргі гледачоў, як, скажам, на нядаўнюю нашумелую выстаўку Аляксандра Ісачова з Рэчыцы, не хадзілі мастацтвазнаўцы, каб прааналізаваць зробленае маладым аўтарам, хаця сама па сабе выстаўка, падрыхтаваная студэнтам, які толькі пачаў вучобу ў інстытуце, — з'ява, якую нельга лічыць шырока распаўсюджанай прынамсі ў нас.

Давайце ж разам пройдземся па паўпустой зале, дзе ва ўрачыстай цішыні чакаюць свайго гледача пейзажы і нацюрморты, жывапісныя і графічныя работы пакуль амаль што невядомага мастака Уладзіміра Шаркова.

1982-м годам пазначана серыя графічных лістоў, прывезеных аўтарам з паездак па Беларусі і краіне. Ёсць настрой, лёгкасць, адчуванне лініі, прасторы... А вось «Ранішні нацюрморт» з фіялкай. Сціплая хатняя расліна з тугімі вільготнымі ружовымі кветкамі на фоне драпіроўкі і пустой рамы заваражвае вока, становіцца мастацкім вобразам чысціні, гармоніі, напоўненасці жыцця. На дзесятках палотнаў можна ўбачыць самыя розныя расліны. З любоўю і тонкім густам мастак расстаўляе ў сваёй майстэрні ў керамічным посудзе засушаныя палявыя кветкі, лён, каласы жыта. І піша ўсю гэту прыгажосць[illegible]авячы перад сабой кож[illegible] раз новыя мастацкія задачы, падымае «ўласную планку» ўсё вышэй.

Трохі нечаканыя сярод гэтых кветак, далікатных букетаў, не скарыстаных [illegible]ульрам для карцін, выта[illegible]анай формы шклянога посуду, керамікі скручаныя відэльцы і лыжкі. Яны, як і вялікі, цяжкі чугунны—бабуліных часоў—стары прас, дапаўняюць карціну нашага быцця.

Побач з гэтымі арыгінальнымі нацюрмортамі некалькі няўдалых партрэтаў. Мастак свядома змясціў іх тут, як ён кажа, каб мець магчымасць самому ўбачыць усё зробленае разам, лепш зразумець памылкі, каб рухацца наперад.

Адна з апошніх жывапісных карцін—гарадскі пейзаж «Белы горад». Гэты куток старога Мінска з відам на будынак кафедральнага сабора Уладзімір пісаў неаднойчы: у розную пару года, у розны час сутак, спрабуючы выказаць сваю пяшчотную ўлюбёнасць у родны горад, павагу да яго старажытнай гісторыі.

Яшчэ раз акінем позіркам экспазіцыю. Гледзячы на карціны, накіды, замалёўкі, у кожнай адчуваеш асобу аўтара—чалавека патрабавальнага, з сур'ёзнымі адносінамі да жыцця і да сябе самога, з поўнай пазіцыяй і светапоглядам. 25-гадовы мастак бачыць і ўспрымае наш свет ва ўсёй яго складанасці, адлюстроўвае яго цэльным, гарманічным і поўным сэнсу.

Бадай, не так мала для пачынаючага. А Уладзімір Шаркоў якраз на пачатку абранай ім дарогі. Дарэчы, права ісці па гэтай дарозе не звалілася як падарунак у дзень паўналецця. За многае давялося змагацца, многае пераадольваць. Напрыклад, у інстытут пасля сканчэння мастацкага вучылішча Уладзімір паступіў толькі з трэцяга «заходу». Першая няўдача, вядома, засмуціла, але не выбіла з каляіны. Пайшоў працаваць у школу настаўнікам малявання. Узнікла праблема з майстэрняй, бо працаваць дома не атрымлівалася. Шукаючы выйсце, вымушаны быў, акрамя школы, уладкавацца вартаўніком і мастаком на санітарную станцыю. Там у юнака быў невялічкі пакойчык, які ён абсталяваў пад майстэрню і дзе яму працавалася па вечарах надзвычай плённа. Тут малады чалавек напісаў дзесяткі работ, якія пазней экспанаваліся на рэспубліканскіх, групавых маладзёжных выстаўках. Цікава, што летась невялікая выстаўка У. Шаркова была наладжана ў Гродне, дзе тады праходзіў рэспубліканскі семінар творчай моладзі Беларусі. І дэманстравалася яна разам з выстаўкамі ўжо вядомых аўтараў—М. Селешчука, Ф. Янушкевіча. А трохі пазней я сустрэла работы Уладзіміра на выстаўцы неафармальнага аб'яднання «Галіна».

— Так, быў у маёй біяграфіі такі факт. Нейкі час я ўваходзіў у «Галіну»,—расказвае мастак.—Існавала гэта аб'яднанне нядоўга, распалася. Я выйшаў з яго яшчэ да распаду. Сярод членаў аб'яднання, на мой погляд, не было духоўнай еднасці, тут сабраліся надта розныя людзі, часта з няпэўнымі пазіцыямі і празмернымі ўласнымі амбіцыямі. Адмаўляючы афіцыйнае мастацтва, мастацтва «застойных гадоў», самі «нефармалы», аднак, не здолелі зрабіць колькі-небудзь значны рух наперад, абвясціўшы сацыяльнасць галоўным прынцыпам... Я таксама прыхільнік таго, каб мастацтва не стаяла ў баку ад жыцця, ад яго праблем, але ніяк не прымаю маментальнасці. У мастацтве свае сродкі... Скажам, мне, як члену гарадскога клуба творчай моладзі, неаднойчы даводзілася бываць у дзіцячых дамах, інтэрнатах. Да глыбіні душы ўсхвалявала, што ў нашым грамадстве існуе такая сацыяльная бяда, як кінутыя бацькамі дзеці. Не заўважаць існавання такой праблемы—амаральна. І мастацтва павінна пра гэта гаварыць. Але як? Вось задача.

Расказваючы пра свой удзел у рабоце клуба творчай моладзі, пра паездкі і сустрэчы з замежнымі равеснікамі, Уладзімір па сціпласці змаўчаў пра тое, што ён па ўласнай ініцыятыве ўзяўся разам з сябрам на грамадскіх пачатках афармляць Івянецкі дзіцячы дом. Работа ўжо зроблена. Хлопцы падрыхтавалі некалькі распісных палотнаў, якія ўпрыгожылі пакоі будынка, дзе жывуць і выхоўваюцца дзяржавай абдзеленыя бацькоўскай ласкай і ўвагай дзеці. Некалькі сваіх жывапісных і графічных работ Валодзя яшчэ раней падарыў дзіцячым дамам у Смаргоні, Івянцы, Мсціславе.

Я не ведаю, як Уладзімір Шаркоў паспявае спраўляцца з усімі сваімі абавязкамі. Ва ўсякім разе, ён не стварае ўражанне чалавека, які пакутуе ад цяжару ўзваленай на свае плечы ношы. Калі-нікалі пры сустрэчы ён абавязкова раскажа пра поспехі сваіх студыйцаў (ужо тры гады У. Шаркоў кіруе студыяй выяўленчага мастацтва «Жарптушка» пры адным з домакіраўніцтваў сталіцы), а то і пакажа іх малюнкі. А аднойчы запрасіў на выстаўку дзіцячай творчасці ў Палац піянераў, дзе экспанаваліся работы яго выхаванцаў. За словамі ў яго заўсёды канкрэтныя справы.

Днём Уладзімір—студэнт, увечары—педагог. Даволі цікавая сітуацыя, на мой погляд. Ён сам, між іншым, лічыць яе зусім нармальнай, натуральнай.

— Мастак увесь час павінен вучыцца,—кажа юнак,—ёсць чаму павучыцца і ў дзяцей—непасрэднасці, шчырасці... А з другога боку, я таксама магу быць карысным для іх. Лічу, што маладыя мастакі наогул могуць многае зрабіць для эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення. Тым больш, што ўрокі малявання ў нашай школе, па сутнасці, не развіваюць у дзяцей пачуццё прыгожага, уменне бачыць яго.

На абмеркаванні персанальнай выстаўкі У. Шаркова творчасць маладога аўтара параўналі з жалудом, які даў добрыя парасткі і з якога павінна вырасці моцнае дрэва. Сёння гэтыя парасткі, калі гаварыць вобразна, лашчыць сонца, а ў спякотны дзень іх прыкрываюць сваімі галінамі старыя дрэвы. Аднак перш чым падымецца дубок, яму трэба пусціць карані глыбока ў глебу, а потым выстаяць пад сцюдзёнымі вятрамі і навальніцамі...

Відаць, нямала розных цяжкасцей будзе ў лёсе маладога мастака. Валодзя Шаркоў і не разлічвае на лёгкае жыццё і лёгкі поспех.

— Мне нярэдка даводзіцца чуць ад некаторых, больш старэйшых мастакоў, маўляў, у вас, у маладых, цяпер такія магчымасці, пішы ўсё, што хочаш, самавызначайся. Час зараз і сапраўды добры для творчасці. Аднак менавіта цяпер, калі наша грамадства актыўна перабудоўваецца, рэзка ўзрастае роля мастацтва. І калі раней шэрасць, банальнасць былі даволі звычайнай з'явай, то цяпер безыдэйнасць твора, мастацкая бездапаможнасць аўтара выклікаюць абурэнне людзей. Мае сучаснікі чакаюць ад мастакоў твораў бескампрамісна праўдзівых, якія нясуць у сабе высокую духоўнасць і ў якіх аўтары асэнсоўваюць пройдзены краінай шлях, нашы дасягненні і страты, паказваюць каштоўнасці сапраўдныя і ўяўныя.

Мастак заўсёды пачынаецца з асобы. І трэба думаць, што як асоба Уладзімір Шаркоў зможа сказаць свае слова пра час, у які жыве.

Тацццяна АНТОНАВА.





**НА ЗДЫМКАХ:** мастак Уладзімір ШАРКОЎ і яго работа «Грэчаская царква».





Пра адпачынак працаўнікоў аўтазавода ў Жодзіне і іх сямей клапоціцца прафсаюзны камітэт і савет фізкультурнага калектыву прадпрыемства. Вось і нядаўна ў выхадныя дні многія выязджалі на Дубровенскае вадасховішча, дзе адпачывалі, удзельнічалі ў розных спаборніцтвах: перацягванні каната, конкурсах «Разам — дружная сям'я», на лепшую песню. Памераліся сіламі валейбольныя каманды, уменне і спрыт паказалі аматары рыбнай лоўлі.
Адпачылі аўтазаводцы на славу. Дамоў ехалі задаволеныя, бадзёрыя, поўныя сіл і энергіі.

**НА ЗДЫМКАХ:** аператар станкоў з праграмным кіраваннем Наташа **СЯМАШКА** любіць бадмінтон; Ніна **АНАПРЫЕНКА** рыбачыць з дачкой Воляй.

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

***НАЙМЕННІ РОЗНЫХ НАРОДАЎ НА КАРЦЕ РЭСПУБЛІКІ***

# ПАДАННІ І ГІСТОРЫЯ

«Было гэта даўно — у дванаццатым стагоддзі, у час нашэсця татар. І там не было нічога, толькі лес і пожанька. Татарскі хан Мамай расклаў палатку на пожаньцы, і далі назву Мамаі». Так тлумачаць паходжанне назвы сваёй вёскі жыхары населенага пункта Мамаі, што ў Глыбоцкім раёне Віцебскай вобласці. І жыве гэта паданне, перадаецца з пакалення ў пакаленне, ператвараецца ў казку, набывае фантастычныя рысы. Верыць гэтаму паданню ці не? Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба больш уважліва прыглядзецца да народных паданняў-казак пра паходжанне назвы той ці іншай вёскі, ракі, урочышча, і яны раскажуць шмат цікавага.

Але ці часта задумваемся мы над тым, чаму мы называем менавіта так, а не інакш той ці іншы геаграфічны аб'ект, адкуль бяруць пачатак такія словы, як яны ўзніклі? Мы рэдка задумваемся над гэтым, і многія геаграфічныя імёны, назвы нашых гарадоў і вёсак успрымаем перш за ўсё як адрасны знак. А між тым назва горада ці вёскі ўзнікае тады, калі закладваецца падмурак будучага населенага пункта. А калі гэтаму населенаму пункту не адна сотня гадоў, дык і назва звычайна такая ж старажытная і пачатак яе губляецца ў мінуўшчыне.

Геаграфічныя імёны — гэта словы, якія трапілі на геаграфічную карту, адарваліся ад пэўных умоў і часу, што стварылі іх. І жывуць такія словы, выконваючы сваю службу, і ўспрымаюцца як звычайныя, нягледзячы на тое, што ўзніклі яны ў розныя гістарычныя перыяды і захавалі ў сабе ў той ці іншай форме подых мінулых часоў. Не выпадкова вядомы беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец Адам Багдановіч, бацька славутага беларускага паэта Максіма Багдановіча, называў геаграфічныя імёны «мовай зямлі». Гэтая «мова зямлі», мова сівой старажытнасці, як і гістарычныя помнікі, выхоўвае любоў і пашану да роднага краю, нашай Бацькаўшчыны.

На геаграфічнай карце Беларусі шмат імён — дзесяткі тысяч. У кожнага з іх свой лёс, свая гісторыя, сваё паходжанне. Няма ніводнай назвы, якая б была пустым наборам гукаў. Імя кожнага геаграфічнага аб'екта адлюстроўвае такую характэрную яго асаблівасць, якая была найбольш выразнай, важкай, самай адметнай яго рысай у момант узнікнення назвы. А такой прыкметай, якая кідаецца ў вочы, можа быць пэўная падзея, тая ці іншая асаблівасць мясцовасці, імёны першых пасяленцаў ці ўладальнікаў вёскі, р[illegible]ствы жыхароў, а то і зусі[illegible] падковае здарэнне. Таму з [illegible]ягам часу адметная рыса, якая легла ў аснову назвы, можа страціць сваю актуальнасць [illegible]забыцца, і тады такое імя н[illegible]ае іншыя асаблівасці, яно пе[illegible]ствараецца ў незразумелае, цьмянае, загадкавае. Кожнае новае пакаленне ўспрымае імёны сваёй мясцовасці па-рознаму, з уласцівым яму бачаннем свету. І можа здарыцца так, што імя, якое стала цьмяным, раптам адгукнецца якойсці здагадкай найбольш дапытліваму чалавеку, і тады народзіцца паданне ці легенда пра паходжанне назвы яго вёскі.

Паданні, як і словы, бываюць таксама рознымі — даўнімі, старажытнымі і новымі. І не ўсякае паданне — гэта абавязкова фантазія. У любой казцы ёсць доля ісціны, а самая фантастычная легенда заўсёды абапіраецца на канкрэтныя падзеі, рэальныя факты. Яшчэ старажытныя грэкі гаварылі: каб зразумець рэч, трэба паглядзець на яе вачамі яе стваральнікаў. Бясспрэчна, цяжкая гэта справа, але ці можа быць інакш? У той галіне лінгвістычнай навукі, якая займаецца вывучэннем уласных імён, геаграфічных назваў, задача тым больш нялёгкая: каб высветліць паходжанне тых імён, гісторыя ўзнікнення якіх не захавалася, трэба знайсці версію, якая б мела права на існаванне, зрабіць яе культурна-гістарычнае пацвярджэнне. І ў гэтай справе нельга не звярнуць увагі на так званае «народнае тлумачэнне» геаграфічных назваў, бо яно і ёсць той самы позірк стваральніка імя.

У народным паданні пра паходжанне вёскі Мамаі канкрэтызавана абагульненая гістарычная падзея — мангола-татарскае нашэсце на Русь у XIII стагоддзі. У паданні зменены не толькі час, а і сама канкрэтная асоба. Хан Мамай не меў ніякага дачынення да падзей XIII стагоддзя, бо ён узначальваў тыя татарскія золатаардынскія войскі, якія былі разбіты на Куліковым полі ў 1390 годзе, г. зн. у канцы XIV стагоддзя. З другога боку, Мамай — гэта распаўсюджанае ў мінулым асабовае імя цюркскага паходжання, і зусім магчыма, што ў вёсцы Мамаі калі-небудзь і жылі татарскія перасяленцы, а можа яны і залажылі гэтую вёску, тым самым даўшы падставу для ўзнікнення яе назвы.

За многія стагоддзі шмат плямён і народаў прайшлі па тэрыторыі Беларусі. Ішлі яны з рознымі намерамі (гандлёвымі і ваеннымі), але кожны з іх пакідаў памяць пра сябе то ў выглядзе адпаведных рэалій, якія шукаюць і знаходзяць цяпер археолагі, то ў выглядзе моўных «слядоў» — геаграфічных назваў.

Падлікі паказваюць, што на беларускай зямлі ёсць больш за 400 населеных пунктаў і ўрочышчаў, у назвах якіх адлюстраваліся імёны таго ці іншага народа. Сярод гэтых назваў — імёны старажытных плямён і плямённых груп (крывічоў, севяран, палачан, дулебаў), балтыйскіх, цюркскіх старажытных народаў (яцвягаў, прусаў, хазараў, обраў), сучасных народнасцей (палякаў, літоўцаў, латышоў, татар, чэхаў і іншых).

Але далёка не кожнае такое імя абавязкова сведчыць пра тое, што ў пэўнай мясцовасці жылі тыя або іншыя народы. Часта наяўнасць этнічных імёнаў і названых вёсак ці ўрочышчаў тлумачыцца зусім іншымі прычынамі і падзеямі. І ўдакладніць абставіны ўзнікнення геаграфічнай назвы часта дапамагаюць мясцовыя паданні.

У Вілейскім і Слуцкім раёнах Мінскай вобласці, а таксама на Гродзеншчыне ёсць некалькі населеных пунктаў з назвай Шведы. Мясцовыя жыхары па-рознаму ўспрымаюць гэта імя — хто з жартам, а хто і больш сур'ёзна. Аднак сярод такіх тлумачэнняў — нямала і тых, што заслугоўваюць увагі.

Вёска Шведы, што ў Вілейскім раёне Мінскай вобласці, раней называлася Высокая Прыстань. Старажылы сведчаць, што такое імя далі хутару плытагоны, якія рабілі прычалы ў гэтым месцы, каб трохі адпачыць. Але ў XVIII стагоддзі, у час руска-шведскай вайны, вёска на доўгі час апынулася ў двух лагерах. Адзін канец быццам займала руская армія, а на другім — знаходзіўся штаб галоўнага шведскага войска. За гэтай часткай вёскі і замацавалася назва Шведскі Канец, а потым Шведы, якая з цягам часу канчаткова выцесніла старую назву — Высокая Прыстань.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

**(Працяг будзе).**

## ДА 1000-ГОДДЗЯ ХРЫСЦІЯНСТВА НА РУСІ

Выпускам двух мастацкіх канвертаў з арыгінальнымі маркамі савецкая пошта адзначыла 1000-годдзе ўвядзення хрысціянства на Русі. Гэта знамянальная вяха на многавекавым шляху развіцця айчыннай гісторыі, культуры, рускай дзяр[illegible]насці. На малюнку ад[illegible] з канвертаў — Успенскі сабор у Загорску, Троіцкі сабор у Кіеве. Фон малюнка — абрысы Сафійскага сабора XI стагоддзя. На малюнку маркі — пом[illegible] князю Уладзіміру [illegible]аслававічу, устаноўлены на беразе Дняпра ў Кіеве. На малюнку другога канверта — партал Уладзімірскага сабора ў Кіеве. А на марцы гэтага канверта паказаны славуты Сафійскі сабор. На абодвух канвертах надпіс «1000-годдзе ўвядзення хрысціянства на Русі». У дзень выпуску канвертаў у паштовае абарачэнне на паштамце Масквы прымянялася спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі юбілейным штэмпелем, у малюнку якога дадзена адлюстраванне помніка князю Уладзіміру ў Кіеве. Гэты помнік быў узведзены ў 1853 годзе па праекту скульптара В. Дземут-Маліноўскага, фігура князя была выканана ў бронзе вялікім рускім скульптарам - бронзаліцейшчыкам П. Клодтам.

З увядзеннем хрысціянства Русь далучылася і да перадавой у той час візантыйскай будаўнічай культуры. Старажытнаруская архітэктура і будаўніцтва дасягнулі вялікага росквіту ў першай палове XI стагоддзя. Аб гэтым будаўніцтве ў Кіеве паведамляюць летапісы таго часу. Па загаду Яраслава Мудрага ў 1037 годзе быў закладзены выдатны сабор, названы Сафійскім. Ён быў моцна пашкоджаны ў XIII—XVI стагоддзях, сучасны выгляд набыў у канцы XVII — першай палове XVIII стагоддзяў. На ўпамянутай паштовай марцы з турыстычнай серыі маецца адлюстраванне ансамбля Сафійскага сабора. На гэтым жа паштовым знаку паказаны пабудовы Кіева-Пячэрскай лаўры, заснаванай у 1051 годзе. У XI стагоддзі манастыр стаў не толькі цэнтрам расшырэння і зацвярджэння хрысціянства ў Кіеўскай Русі, але і важным ачагом асветы. У Кіева-Пячэрскім манастыры быў зроблены першы вопыт напісання нашай гісторыі, гісторыі зямлі Рускай. Менавіта там з'явілася на свет славутая «Повесть временных лет», у якой упамінаюцца многія старажытныя гарады цяперашняй Беларусі, апісваюцца падзеі, што адбываліся на гэтай зямлі.

Амаль адначасова з Сафійскім саборам у Кіеве была ўзведзена Сафія і ў Ноўгарадзе. Гэты велічны храм паказаны на марцы, прысвечанай 1000-годдзю Ноўгарада. Сабор быў пабудаваны ў Наўгародскім Крамлі ў 1045—1050 гадах як галоўны храм горада.

**Леў КОЛАСАЎ.**



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 1119